# Прайшоў школьны кірмаш

На плошчы Свабоды ў Віцебску прайшоў традыцыйны школьны кірмаш, дзе бацькі змаглі купіць адзенне і абутак для дзяцей. Быў прапанаваны шырокі асартымент пісьмовых прылад — сшыткі, дзённікі, ручкі, алоўкі, ранцы. На перыяд падрыхтоўкі да навучальнага года спецыяльным рашэннем аблвыканкама на ўсе школьныя тавары былі на 5 працэнтаў зніжаны гандлёвыя надбаўкі.

НА ЗДЫМКАХ: задаволеныя новымі ранцамі вучні сярэдняй школы № 45 браты Сяргей і Саша Авечкіны; абутак сыну-першакласніку падбірае Сяргей Маркевіч.





Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.

Вяртаючыся да дыскусіі

## Ці трэба педагогам Беларусі маральны кодэкс?

Адразу пасля апублікавання ў "Настаўніцкай газеце" праекта маральнага кодэкса педагога і запрашэння прыняць удзел у яго абмеркаванні меў намер выказаць свае думкі, але потым вырашыў устрымацца, бо мае адносіны да гэтага праекта цалкам адмоўныя, што, несумненна, выкліча буру гневу, незадаволенасці (а мо і горш таго) у мой адрас.

Я, калі шчыра, вычытаўшы праект маральнага кодэкса педагога, чамусьці прыгадаў былыя савецкія часы і "моральный кодекс строителя коммунизма". Кодэкс будаўніка камунізму прыдумалі, апублікавалі, аднак па гэтым кодэксе ніхто не жыў, не будаваў камунізму. Гэта быў загадзя мёртвы дакумент, пра які складалі анекдоты.

Ці трэба беларускім педагогам маральны кодэкс? Вось гэтае пытанне мяне найперш хвалюе. Што ён дасць сейбітам разумнага, добрага, вечнага? Ці нельга абысціся без яго ў жыцці і працы кожнаму беларускаму педагогу?

На мой погляд, гэта надуманы, не абгрунтаваны ніякай патрэбаю дакумент. Ёсць жа дзесяць запаведзяў Божых, ёсць агульначалавечыя прынцыпы маралі, паводзін, па якіх людзі жывуць у цывілізаваных краінах.

Кодэкс, безумоўна, можна абмеркаваць, але ён будзе існаваць сам па сабе і для сябе. Няўжо дрэнна працавалі ці працуюць беларускія настаўнікі, кіраўнікі школ, што з'явілася патрэба прыдумаць кодэкс педагога? Няўжо аўтары праекта вераць у нейкую сілу будучага дакумента, быццам бы менавіта ён не дапусціць ці выжыве з нашых радоў нядобрасумленных, нядбайных, безадказных, зайздросных, схільных да парушэнняў працоўнай дысцыпліны, чэрствых людзей? Калі б маральны кодэкс педагога сапраўды меў нейкую магічную сілу, тады была б іншая справа. Але гэта — звычайная ўтопія. Дарэчы, нідзе і ніколі не даводзілася ні чытаць, ні чуць, каб маральныя кодэксы педагогаў існавалі ці то ў царскай Расіі, ці то ў іншых краінах свету.

І нарэшце. Маральны кодэкс педагога не ўмацуе матэрыяльнае становішча работнікаў асветы, аб чым сёння многа гавораць і пішуць самі педагогі, бо яны і сапраўды апынуліся ў жабрацкім становішчы, калі можна так сказаць, на задворках грамадства. Вось над чым трэба думаць тым, хто ва ўладзе, бо ў канчатковым выніку "бытие определяет сознание", а не маральны кодэкс.

**Іван ГОВАР,**
**педагог Іўеўскай дапаможнай школы-інтэрната.**

Партрэт сельскай школы

# Гайна нараджае таленты

ВЯДОМА, што ў арганізацыі і ажыццяўленні вучэбна-выхаваўчага працэсу гарадскія школы знаходзяцца ў больш выгадным становішчы, чым сельскія. У іх лягчэй вырашаюцца пытанні матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, кадравыя праблемы, яны маюць лепшыя ўмовы для правядзення пазакласнай работы з вучнямі. Аднак і ў сельскіх школ ёсць шэраг сваіх пераваг. Адна з іх — дабратворны ўплыў на выхаваўчы працэс навакольнай прыроды, у якой знаходзіцца школа. Тут прасцей складваюцца адносіны паміж людзьмі. У многіх сёлах і вёсках — свае звычаі і традыцыі, якія таксама садзейнічаюць выхаванню, фарміруюць у дзяцей працавітасць, беражлівасць і іншыя якасці.

Пра адну з такіх школ і пойдзе гаворка.

Лагойскі край — унікальная мясціна ў нашай рэспубліцы. Краязнаўцы сцвярджаюць, што гэта — Швейцарыя ў мініяцюры. Сапраўды, рэльеф тут — своеасаблівы: шматлікія ўзгоркі, зарослыяляснымі масівамі, у якіх пераважаюць пушыстыя беластволыя бярозавыя дрэвы ды буяе ўсялякае разнатраўе, чаргуюцца з раўчукамі і раўнінамі. Маляўнічы ландшафт характэрны для наваколля Лагойска. Каля невялікай рачулкі ў дзесяці кіламетрах ад горада размясціліся пабудовы, тыповыя для сярэдняй паласы Беларусі. Гэта — вёска Гайна. Мясцовыя жыхары лічаць, што назва вёскі і ракі паходзіць ад балтыйскага слова "айна" ("пейзаж, краявід"). У пісьмовых крыніцах Гайна згадваецца ўжо ў XV стагоддзі. У 1386 г. Гайна становіцца цэнтрам адной з парафій, заснаваных пасля заключэння Крэўскай уніі. Прыкладна ў гэты ж час вялікі князь Ягайла заснаваў тут касцёл — адзін з першых на Беларусі.

З таго часу мінула шмат стагоддзяў, змянілася некалькі пакаленняў людзей. Лёс жыхароў вёскі быў цесна звязаны з гісторыяй усяго нашага народа. Гайнаўцаў таксама закранаюць перыяды спусташальных войнаў ды разбурэнняў. Аднак працавіты і таленавіты народ ізноў станавіўся на ногі, аднаўляў сваё жыллё, гаспадарку. Вось і цяпер, у гэты нялёгкі гістарычны час, гайнаўцы ладзяць свой побыт, вырошчваюць і збіраюць ураджай.

Сёння вёска Гайна з'яўляецца адміністрацыйным цэнтрам сельскага савета. Сямігодка ў Гайне была адкрыта ў 1926 г. Двухпавярховы будынак цяперашняй сярэдняй агульнаадукацыйнай школы пабудаваны ў пасляваенны перыяд. Па тых часах падобныя школьныя памяшканні ўзводзіліся толькі ў вялікіх і вядомых населеных пунктах. Школа знаходзіцца ў маляўнічай мясціне, яе акружаюць велічныя ліпавыя і кляновыя дрэвы. На прышкольным участку растуць сад ды ягаднікі. Тут вырошчваецца розная гародніна, якая выкарыстоўваецца ў школьнай сталоўцы для харчавання вучняў.

Арганізацыяй вучэбна-выхаваўчага працэсу заняты каля 20 педагогаў і выхавальнікаў. Многія з іх працуюць творча, маюць першую або другую катэгорыі, а выкладчыца гісторыі Валянціна Аркадзьеўна Гатоўка з'яўляецца заслужаным настаўнікам.

Станоўчым момантам у жыцці школы трэба лічыць і той факт, што на працягу амаль 30 гадоў педагагічным калектывам кіраваў таленавіты педагог і арганізатар Анатоль Васільевіч Маршалаў. Цяпер гэты калектыў узначальвае Уладзімір Антонавіч Паплёўка. Нарадзіўся ён на Лагойшчыне, скончыў педагагічны інстытут імя М.Горкага, яго педагагічны стаж — 12 гадоў, тры з іх паспяхова кіруе школай.

У ёй вучыцца звыш 130 дзяцей і падлеткаў, — жыхароў вёсак Гайна, Слабада, Родзевічы. Са сцен школы выйшла цэлая кагорта настаўнікаў, урачоў, вучоных і грамадскіх дзеячаў. Імёны многіх з іх вядомыя не толькі на Лагойшчыне, але і ў іншых рэгіёнах рэспублікі. Напрыклад, у вёсцы Слабада нарадзіўся Ніл Сымонавіч Гілевіч — народны паэт, таленавіты перакладчык, вядомы літаратурны і грамадскі дзеяч. Ён паспяхова вучыўся ў Гайненскай школе. Асобныя матэрыялы пра жыццё і дзейнасць выпускнікоў школы сабраны і захоўваюцца ў школьным музеі.

"У нашай школе, — гаворыць Уладзімір Антонавіч, — навучанне і выхаванне дзяцей ды падлеткаў ажыццяўляецца галоўным чынам на ўроках у працэсе засваення асноў навук. У той жа час немалаважную ролю мы надаем дадатковай адукацыі, арганізацыі пазаўрочнай дзейнасці, занятасці вучняў карыснымі справамі". У школе створана каля двух дзесяткаў гурткоў, секцый і іншых аб'яднанняў. Вялікай папулярнасцю сярод выхаванцаў школы карыстаюцца гурткі па навучанні рукадзеллю, дрэваапрацоўцы, кветкаводству, у якіх вучні набываюць навыкі і ўменні, неабходныя ў жыцці кожнаму чалавеку.

Пад кіраўніцтвам настаўніка Фёдара Цімафеевіча Баслякова ў гуртку па дрэваапрацоўцы падлеткі авалодваюць майстэрствам вырабу розных прадметаў хатняга ўжытку. Напрыклад, яны навучыліся майстраваць кадкі, бачкі, бочкі і ўсялякі посуд рознай ёмістасці ды памераў, які выкарыстоўваецца ў школьнай сталоўцы для засолкі і захоўвання прадуктаў харчавання. Падлеткі вырабляюць і больш складаныя рэчы. Напрыклад, більярдныя сталы і прылады для гульні, мадэлі самалётаў рознай мадыфікацыі, сталы і крэслы.

З цікавасцю і ахвотай школьнікі наведваюць такія гурткі, як "Юны пажарны", "Юны сябар міліцыі", вакальна-інструментальны, вакальны і інш.

У арганізацыі і дзейнасці кожнага школьнага гуртка і аб'яднання ёсць свая спецыфіка і дасягненні. Узяць, напрыклад, турыстычны клуб "Валошка", якім на працягу шэрагу гадоў кіруе педагог-арганізатар Віктар Сяргеевіч Дубко. Гэты чалавек захоплены турызмам і краязнаўствам. Галоўнае, што да сваёй высакароднай справы ён змог далучыць амаль усіх вучняў школы сярэдняга і старэйшага ўзросту. Клуб яднае дзяцей. Ён мае свой герб, эмблему і традыцыі. Напрыклад, у Сусветны дзень турызму, 27 верасня, турызмам і краязнаўствам у школе займаюцца ўсе вучні. Турысцкія спаборніцтвы і гульні, краязнаўчыя вікторыны і алімпіяды праводзяцца ва ўсіх класах. Да іх загадзя рыхтуюцца, значную дапамогу класным кіраўнікам аказваюць актывісты клуба.

На геаграфічнай карце, якая вісіць на самым відным месцы ў турысцкім кутку клуба, адзначаны маршруты, дзе пабывалі вучні школы. Лініі вядуць ва ўсе куткі нашай рэспублікі, а таксама — у гарады краін блізкага і далёкага замежжа: Масква, Кіеў, Вільнюс, Рыга, Адэса, Смаленск, Севастопаль, Пскоў і інш. Гэта не проста паездкі. Пры распрацоўцы маршрута кожнага падарожжа ўсе ўдзельнікі старанна рыхтуюцца, вывучаюць гісторыка-культурныя і прыродныя аб'екты, а пасля вяртання дадому даюць справаздачы аб экспедыцыі.

Можа ўзнікнуць пытанне пра тое, дзе школа і вучні бяруць грошы для правядзення падобных паходаў і экспедыцый. На гэты конт Уладзімір Антонавіч адказаў, што значныя сродкі вучні зарабляюць на сельскагаспадарчых работах. Акрамя таго, дапамогу аказваюць шэфскія арганізацыі. Напрыклад, Рэспубліканскае турысцка-экскурсійнае вытворчае аб'яднанне "Белтурыст" (генеральны дырэктар Фёдар Кандрацьевіч Салянік) для патрэб школы выдзеліла 25 рукзакоў, столькі ж спальнікаў і вятровак, некалькі турысцкіх палатак і іншы рыштунак. Школе аказалі дапамогу ў набыцці паўтара дзесятка веласіпедаў. Частку патрэбнай амуніцыі школа бясплатна бярэ ў Рэспубліканскім цэнтры турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі.

Турызм і краязнаўства ў школе наогул набылі масавы характар і пачалі выкарыстоўвацца ў выхаваўчых мэтах. Распрацавана сістэма ўліку ўдзелу школьнікаў у паходах і экспедыцыях, вызначаецца рэйтынг кожнага юнага турыста. Пры гэтым улічваюцца такія паказчыкі: колькасць дзён, праведзеных вучнем у паходах і экспедыцыях, колькасць начлегаў у турысцкіх палатках, колькасць кіламетраў, пераадоленых на веласіпедзе; якая адлегласць пройдзена пешшу і інш. Рэйтынгавая табліца змешчана ў турысцкім кутку для агляду вучняў і бацькоў. Яна рэгулярна абнаўляецца, папаўняецца новымі звесткамі. На дзень наведвання школы ў табліцы значыліся прозвішчы 61 вучня. Указаны рэйтынг. На першым месцы — імя Віталя Косціна. Пазначана, што ён прыняў удзел у 85 паходах і экспедыцыях, у якіх правёў 306 дзён і 132 начлегі, пераадолеў адлегласць даўжынёй у 15158 км, з іх 1830 км — пешшу. Дарэчы, гэты вучань сельскай школы на працягу шэрагу гадоў займае прызавыя месцы на абласных спаборніцтвах па велатурызме.

Тут жа, у турысцкім кутку, змешчаны фатаграфіі выпускнікоў школы мінулых гадоў, якія мелі высокі турысцкі рэйтынг. Зроблена кароткае апісанне (анатацыя) паходаў і экскурсій. Таму не выпадкова юныя турысты школы неаднаразова былі пераможцамі на абласных спаборніцтвах вучняў па спартыўным арыентаванні, тэхніцы пешага турызму, велатурызме і іншых відах.

У школе актыўна працуюць спартыўныя секцыі, праводзяцца спартландыі, дні здароўя, разнастайныя спаборніцтвы і іншыя аздараўленчыя мерапрыемствы. Актыўную дапамогу ў гэтым школе аказвае Лагойскі раённы аддзел спорту і турызму ды яго кіраўнік Алег Леанідавіч Качан.

Дзейнічае ў школе і турысцка-краязнаўчы летнік. На працягу трох тыдняў 24 школьнікі змены адпачываюць тут, набіраюцца сіл перад новым навучальным годам. Шмат часу ў летніку адводзіцца заняткам спортам, турызмам і краязнаўствам.

Значная роля ў духоўна-маральным выхаванні дзяцей належыць гісторыка-этнаграфічнаму музею, які на працягу шэрагу гадоў узначальвае настаўніца матэматыкі Таццяна Дзмітрыеўна Кохан. Сабраны і сістэматызаваны багаты матэрыял па гісторыі вёскі, звесткі пра вядомых яе жыхароў. У прыватнасці, у гэтых мясцінах жылі Даленга-Хадакоўскі (Адам Якаўлевіч Чарнецкі) — гісторык і этнограф, вядомы паэт (XVIII стагоддзя) Ігнат Шыдлоўскі і інш.

Вялікае месца ў музеі займае раздзел сучаснага перыяду, прысвечаны абаронцам Айчыны. У ім змяшчаюцца франтавыя пісьмы аднасяльчан, пахавальныя, узнагародныя лісты, друкаваныя матэрыялы ваенных гадоў, фатаграфіі воінаў-землякоў. Тут, на пліце, напісаны імёны 186 чалавек — воінаў, закатаваных і расстраляных аднавяскоўцаў.

Адзін са стэндаў прысвечаны працаўнікам мірнага часу. Асаблівую ўвагу выклікае ў наведвальнікаў матэрыял пра першую жанчыну-трактарыстку Ганну Іосіфаўну Рыбчык.

Ёсць у музеі экспазіцыя, прысвечаная паэту Нілу Гілевічу. Тут сабраны ягоныя творы, кнігі, лісты, фатаграфіі і іншыя матэрыялы. Цяпер гэты раздзел рэканструіруецца, папаўняецца новымі матэрыяламі з нагоды 70-годдзя знакамітага земляка. Дзверы музея — заўсёды адчыненыя для наведвання.

Гайненская сярэдняя агульнаадукацыйная школа з'яўляецца адной са школ раёна, дзе актыўна ўкараняюцца метады навучання па курсе "Здаровы лад жыцця". Над гэтай задачай працуе ўвесь педагагічны калектыў. Для каардынацыі яго дзейнасці створаны і паспяхова функцыянуе савет, у склад якога ўвайшлі найбольш кваліфікаваныя і вопытныя педагогі. Вывучаюцца матэрыялы і публікацыі перыядычнага друку і аднайменнага часопіса ("Здаровы лад жыцця"). Распрацавана і ажыццяўляецца праграма, якая ўключае шырокае кола пытанняў выхаваўчага характару з улікам умоў работы школы, асаблівасцей і падрыхтоўкі вучняў. Напрыклад, для школьнікаў сярэдняга ўзросту важнымі з'яўляюцца пытанні рэжыму дня, умення правільна размяркоўваць час, санітарна-гігіенічнага характару, экалагічнага выхавання і фізічнага развіцця. У старшакласнікаў шмат увагі ўдзяляецца пытанням удасканалення асобы, сяброўства і калектывізму, шлюбу і сям'і, сямейным стасункам. Сёлета ў сакавіку па названай праблеме была праведзена педагагічная нарада, на якой настаўнікі абмяняліся сваімі напрацоўкамі, выказалі канкрэтныя прапановы, заўвагі і пажаданні. У прыватнасці адзначалі, што ў масавым і педагагічным друку гэтай праблеме ўдзяляецца мала ўвагі, не змяшчаюцца матэрыялы рэкамендацыйнага характару. Патрабуюць вырашэння і пытанні матэрыяльнага забеспячэння некаторых раздзелаў праграмы.

На педагагічнай нарадзе было прынята рашэнне ўзмацніць работу, а таксама разнастаіць формы і метады выканання праграмы, шукаць шляхі ўзаемадзеяння з бацькамі, дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі і сумеснымі намаганнямі вучыць і выхоўваць моладзь.

**Мікалай ГЕРАСІМЕНКА.**

Хоць пісьмо і не надрукавана

# Працоўная практыка

***У рэдакцыю звярнулася настаўніца Л.М.Казанцава з Салігорска з просьбай растлумачыць некаторыя аспекты праходжання вучнямі працоўнай практыкі.***

***На пісьмо адказвае галоўны інспектар Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі А.А.Улога:***

— Па-першае, вучэбнымі планамі агульнаадукацыйных школ на 2001-2002 навучальны год, зацверджанымі загадам Міністэрства адукацыі "Аб вучэбных планах агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь на 2001-2002 навучальны год" ад 20.06.2001 г. № 311, прадугледжана правядзенне працоўнай практыкі ў 4, 5 — 7 класах на працягу 5 дзён па 3 гадзіны ў дзень у кожным класе (усяго па 15 гадзін), у 8 класах — на працягу 8 дзён па 4 гадзіны ў дзень (усяго 32 гадзіны) і ў 10 класах на працягу 7 дзён па 6 гадзін у дзень (усяго 42 гадзіны).

Працоўная практыка ў адзначаных класах арганізуецца па рашэнні педагагічнага савета школы. Ён вызначае тэрміны (практыка дазваляецца на працягу лета ў адпаведнасці з графікам, які распрацоўвае кожная школа), парадак і магчымасць арганізацыі практыкі зыходзячы з мясцовых умоў.

Такім чынам, як адзначана ў вучэбных планах, канчатковае рашэнне — праводзіць ці не праводзіць працоўную практыку з вучнямі — прымае педагагічны савет школы. Калі ж педагагічны савет прыняў рашэнне аб правядзенні практыкі ў поўным аб'ёме, то кожны вучань адпаведнага класа павінен адпрацаваць пазначаную колькасць гадзін, за выключэннем тых вучняў, якія вызвалены ад працы па стане здароўя. Калі ж вучань не адпрацаваў устаноўленую колькасць гадзін, дык канчатковае рашэнне наконт яго пераводу ў наступны клас прымае таксама педсавет.

Разам з тым, гэтае пытанне павінна вырашацца толькі ў індывідуальным парадку: калі вучань не прайшоў працоўнай практыкі ў летні перыяд па ўважлівых прычынах (хвароба, выязджаў на аздараўленне за мяжу і інш.), дык ён пераводзіцца ў наступны клас без адпрацоўкі практыкі. У адваротным выпадку ён пераводзіцца ў наступны клас з умовай праходжання працоўнай практыкі на працягу, напрыклад, першай чвэрці ў вольны ад асноўных заняткаў час.

Па-другое, вучэбнымі планамі агульнаадукацыйных школ на 2001-2002 навучальны год не прадугледжана правядзенне працоўнай практыкі ў 9 і 11 класах, а гэта азначае, што яна не з'яўляецца абавязковай. Рашэнне наконт правядзення практыкі, адпрацоўкі пэўнай колькасці гадзін на прышкольным вучэбна-доследным участку або на добраўпарадкаванні школы ці іншае можа прыняць толькі вучнёўскі калектыў. Як пазначана ў пісьме Л.М.Казанцавай, рашэнне аб адпрацоўцы па добраўпарадкаванні школы па 10 гадзін кожным вучнем 9 і 11 класаў было прынята на вучнёўскім сходзе, і менавіта гэта з'яўляецца падставай для прыняцця рашэння саветам школы. Парушэннем правоў дзіцяці гэта не з'яўляецца ў сувязі з тым, што рашэнне прынята дзецьмі, а савет школы гэтае рашэнне аформіў, скажам так, юрыдычна.

Асцярожна, СНІД!

# Назад, да сапраўдных каштоўнасцяў

***Словам можна забіць, а можна і выратаваць — напэўна, так я інтэрпрэтоўвала б ідэю, якая з'явілася падставай для правядзення нарады з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі пад назвай "Некаторыя аспекты асвятлення праблемы ВІЧ/СНІД у рэспубліканскіх выданнях". Нараду арганізавалі Дзяржаўны камітэт рэспублікі Беларусь па друку і Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу.***

Калі размова ідзе пра чалавечае жыццё, дык тым больш зразумела, якая вялікая адказнасць ляжыць на сейбітах слова, з якой асцярожнасцю павінны адносіцца яны да сваёй справы. Арганізатары мерапрыемства асабліва падкрэсліваюць менавіта гэты аспект журналісцкай працы, бо ў апошні час на старонках беларускіх газет з'яўляюцца матэрыялы, аўтары якіх могуць дазволіць сабе схібіць у фактах ці скарыстацца недакладнымі дадзенымі, неабдумана, рэзка і катэгарычна паставіцца да некаторых пытанняў, зрабіць аднабаковыя высновы, што ў рэшце рэшт прыводзіць да скажэння рэчаіснасці. Як кажуць, слова — не верабей. Канешне, потым можна высветліць, дзе праўда, але калі хоць адзін чалавек паверыць той неадпаведнай інфармацыі і ў небяспечны для жыцця момант зробіць памылку, якая прывядзе яго да захворвання і смерці, — уявіце сабе, якая віна ляжа на таго, хто гэтую інфармацыю, па неахайнасці ці няведанні, выпусціў у свет.

Таму спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу вырашылі яшчэ раз засяродзіць увагу прадстаўнікоў СМІ на асноўных момантах, звязаных з захворваннем, каб у далейшым пазбегнуць такіх пагражальных недарэчнасцей, а таксама абвергнуць ці ўдакладніць тыя скажэнні рэчаіснасці, якія былі дапушчаны ў журналісцкіх матэрыялах.

Мне здаецца, не толькі мы, журналісты, маем дачыненне менавіта да такой пастаноўкі пытання, а яшчэ абавязкова і настаўнікі. Настаўнік мае магчымасць уплываць не толькі словам, а і сваім уласным прыкладам, паводзінамі на вялікую колькасць людзей, прычым людзей у такім узросце, калі ў іх яшчэ толькі фарміруецца характар, погляды, лад жыцця, калі іх псіхіка — яшчэ даволі пластычная. Акрамя іншага, настаўнік — яшчэ і выхавальнік. І ягонае слова можа таксама як і забіць, так і выратаваць. Таму, паважаныя настаўнікі, давайце разам паразважаем, каб такім чынам і вы далучыліся да нарады.

Перш-наперш — факты: 3649 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі зарэгістравана ў нашай краіне паводле апошніх дадзеных. Трэба памножыць гэтую лічбу на 3 ці 5, як лічаць спецыялісты, — і гэта будзе сапраўдная колькасць (для дзесяцімільённай краіны — працэнт не надта вялікі, але суцяшаць сябе гэтым нельга). Каля 80 працэнтаў у згаданых выпадках — людзі 20-29-гадовага ўзросту. З агульнай колькасці інфіцыраваных каля 80 працэнтаў — людзі, што ўжываюць наркотыкі, астатнія 20 працэнтаў атрымалі вірус праз сексуальныя зносіны. Прычым большасць з тых, хто заразіўся ВІЧ, добра ведалі, як перадаецца інфекцыя, як можна абараніць сябе. Але не зрабілі гэтага...

Адно з самых вострых, спрэчных пытанняў, якія ў сувязі з праблемай СНІДу закранаюцца ў СМІ — праблема сексуальных зносін і маральнага боку выхавання дзіцяці, у тым ліку выхавання ў навучальным працэсе. Адны лічаць, што трэба змалку даваць дзіцяці ўяўленне пра адносіны мужчыны і жанчыны, каб навучыць у выпадку пагрозы таго ж СНІДу засцерагацца. Іншыя кажуць, што такі падыход можа падштурхнуць дзіця да ранняга ўступлення ў дарослае жыццё, і такім чынам, у выхаванні трэба арыентавацца больш на маральны бок, г.зн. больш звяртаць увагу на непажаданасць і небяспечнасць ранніх і выпадковых сувязяў, на захаванне вернасці ў сям'і... Але калі ў прэсе праводзіцца рэзкае размежаванне паміж гэтымі дзвюма думкамі — атрымліваецца негарманічная і даволі скажоная карціна. "Безумоўна, устрыманне да шлюбу ды вернасць мужа і жонкі адно аднаму — лепшая абарона ад СНІДу, — кажа Лілія Мялешка, выконваючая абавязкі галоўнага ўрача Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу, — але колькі пра гэта ні гавары, не ўсе згаданых правілаў прытрымліваюцца". Таму тут неабходна пэўная гнуткасць. Перш за ўсё, вядома, — маральны бок выхавання, але трэба даць інфармацыю і пра тое, як абараніць сябе ў рызыкоўнай сітуацыі, калі чалавек усё ж так ідзе на яе. На старонках газет часам выказваецца думка пра дарэмнасць карыстання прэзерватывам. Гэта падштурхоўвае моладзь адмовіцца ад яго. Але спецыялісты сцвярджаюць, што ён значна зніжае магчымасць заразіцца ВІЧ-інфекцыяй, таму недаравальнае глупства — не абараніць сябе пры выпадковай, небяспечнай сувязі. А лепш за ўсё — пазбягаць апошняй. Таксама ў СМІ прайшла "сенсацыйная" інфармацыя наконт прэпарата "Аменікум". Людзі вырашылі, што ён — панацэя. У цэнтр прафілактыкі СНІДу прыходзілі хворыя з патрабаваннем накіраваць іх на лячэнне ў Арменію, абураліся, што пакідаюць тут паміраць. Але "на сёння няма эфектыўных сродкаў лячэння ВІЧ-інфекцыі" — так сцвярджаюць спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу. Жорстка — даваць смяротна хвораму беспадстаўную надзею на выздараўленне: расчараванне можа проста забіць.

Кажуць, што ў апошні час у нашай школе "вместо культпросвета — секспросвет". Але гэта — беспадстаўная заява. У школах на праблему СНІДу адведзена ў 9 і 10 класах па некалькі хвілін, а наконт "секспрасвету" наогул гаворкі не ідзе — дастаткова зайсці ў любую школу і запытацца ў настаўніка біялогіі, колькі часу ён прысвячае палавому выхаванню.

Усё гэта — тыя факты, якія павінны ведаць сейбіт слова. І каб слова несла выратаванне, ён павінен, перш за ўсё сам для сябе дакладна вызначыць сваю пазіцыю ў адносінах да СНІДу, да прычын захворвання, да маральнага боку праблемы.

Чаму людзі хварэюць на СНІД? Таму, што выкарыстоўваюць нестэрыльныя інструменты для ін'екцыі наркотыкаў і забываюцца на прэзерватыў? Ці можна адказаць гэтак на пытанне? Не ўсё так проста.

Звернемся зноў да статыстыкі: 80 працэнтаў хворых на СНІД ці носьбітаў ВІЧ-інфекцыі — ін'екцыйныя наркаманы, 20 працэнтаў — заразіліся ў выніку палавога кантакту. Найбольш рызыкуюць мужчыны-гомасексуалісты. Прычым у гэтыя 20 працэнтаў не ўваходзяць тыя, хто захварэў выпадкова, з-за няведання. Такіх здарэнняў — толькі адзінкі, мізэрная колькасць. Менавіта таму ўсё больш людзей і прыходзіць да высновы: СНІД — вынік ладу жыцця чалавека.

Калі чалавек памірае духоўна, дык трэба разумець, што і фізічная смерць — недалёка. Наркаманія ж і ёсць духоўная смерць. Каб дасягнуць станоўчых вынікаў у жыцці, чалавеку неабходна працаваць. І яго ўзнагарода за працу — радасць. Набытае праз намаганні дае вопыт і надае каштоўнасць выніку. Праца ўмацоўвае характар чалавека, можна сказаць, адаптуе да жыцця.

Наркотыкі — асалода без намаганняў, асалода крадзеная, прычым у самога сябе. Наркаман — злачынца перад сабой, ён парушае адвечны баланс жыцця. Ён — жывы труп, бо не трэба расказваць, як і чым жыве наркаман. Таму нядзіўна, што СНІД забірае стольках з іх. І хай не суцяшаюць сябе асобы, што ўжываюць наркотыкі кшталту "Фэнтэзі", "Экстэзі", г.зн. не ўводзяць іх унутрывенна, рана ці позна яны прыйдуць і да ін'екцый.

А як жа другая група рызыкі? Напэўна, дзіўна, старамодна зараз разважаць пра вернасць, пра тое, што любоў — гэта вялікі дар, які чалавек абагаўляе. І так жудасна здзекавацца з яго, прыраўноўваючы да шматразовага аргазму без асаблівага разбору, дзе і з кім, — недапушчальна. Гэта — злачынства і супраць сапраўднай чалавечай прыроды, бо чалавек — не жывёла.

Канешне, нехта можа паспрачацца са мною, але несумненным застаецца тое, што неўжыванне наркотыкаў і "шчыльныя звязкі кахання — самыя моцныя абаронцы супраць СНІДу". Гэта — словы з вядомага плаката, і іх трэба памятаць заўсёды. "СНІД — вынік нашага духоўнага стану", — канстатуе выконваючая абавязкі галоўнага ўрача Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу Лілія Мялешка. Усё большая колькасць людзей прыходзіць да гэтай высновы.

Застаецца яшчэ праблема адносін да людзей, што заразіліся ВІЧ. Мне здаецца, асуджаць ці пазбягаць можна пэўнага ладу жыцця, а да хворых трэба ставіцца цярпліва. Як бы чалавек ні жыў, у большасці выпадкаў хвароба для яго — нечаканы ўдар. На жаль, многіх толькі пагроза смерці і прымушае задумацца над сваім жыццём. Паўстае пытанне: чаму я? І многія, разумеючы чаму, вяртаюцца да сапраўдных жыццёвых каштоўнасцей. А гэта, на маю думку, дае ім надзею. Можа, цудаў няма ў нашым жыцці толькі таму, што мы перасталі ў іх верыць?..

**Вольга ЗАЙКІНА.**

